З НАГОДЫ

*Алег ВОЛЧАК:*

# «За час сваёй работы мы дапамаглі прыкладна 15 тысячам грамадзян»

*10 снежня — Міжнародны дзень абароны правоў чалавека. З гэтай нагоды карэспандэнт "Народнай Волі" гутарыць з Алегам ВОЛЧАКАМ — кіраўніком зарэгістраванай у Кіеве арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву", якой у гэтым годзе споўнілася 15 гадоў.*

— Фактычна мая праваабарончая дзейнасць пачалася 17 чэрвеня 1997 года, калі я (на той час дэпутат Мінгарсавета) змог правесці адкрытыя дэпутацкія слуханні па пытанні "Аб стане праваахovы ў Мінску падчас правядзення грамадска-палітычных мерапрыемстваў у перыяд з лютага па чэрвень 1997 г.", — распавядае наш суразмоўца. — Гэта быў, напэўна, першы і апошні афіцыйны дыялог улады з апазіцыяй. Тады беларускія праваабаронцы атрымалі права выступіць з трыбуны ў прысутнасці вышэйшага кіраўніцтва горада, прадстаўнікоў СМІ, міжнародных арганізацый і дыпламатаў. Па выніках праведзенай праверкі былі ўстаноўлены факты неадэкватных дзеянняў міліцыі ў адносінах да грамадзян, якія ўдзельнічалі ў мірных акцыях пратэсту. Таксама высветлілася, што і суды не заўсёды аб'ектыўна і прафесійна разглядалі адміністрацыйныя справы ў адносінах да ўдзельнікаў акцый. Гэты дзень мне запомніўся надоўга. Аказалася, што і адзін можа быць у полі воінам! Варта не паддавацца песімістычным настроям, а змагацца за свае погляды, свабоду, грамадзянскую пазіцыю. Можна сказаць, з таго дня я абраў для сябе шлях праваабаронцы. 15 гадоў таму была створана і арганізацыя "Прававая дапамога насельніцтву".



**— На той час вы былі легальна зарэгістраваны ў Беларусі?**

— Больш за тое — выканкам Фрунзенскага раёна Мінска нават даў нам кабінет для прыёму грамадзян. Мы сабралі вопытных юрыстаў са стажам работы, атрымалі ліцэнзію на аказанне юрыдычных паслуг. Было вырашана заняцца праваабарончай дзейнасцю з сацыяльным ухілам. Арганізавалі грамадскую прыёмную ў Мінску і рэгіёнах, падчас гучных працэсаў альбо выбараў праводзілі маніторынг падзей. Паводле некаторых падлікаў, за ўвесь час работы мы дапамаглі прыкладна 15 тысячам грамадзян.

**— Ёсць такое меркаванне: калі ты праваабаронца, то абавязкова апазіцыянер… Гэта не перашкаджае ў рабоце?**

— Могуць яшчэ сказаць: "Бээнэфавец". Такія ў многіх стэрэатыпы, прапаганда робіць сваю справу.

Праўда, калі днямі зайшоў у шпіталь для ветэранаў вайны і дапамог некаторым людзям, гэтае замбіраванне адразу прайшло. Чалавек жа бачыць, хто яму рэальна дапамагае, ацэньвае па справах. Давер не вельмі складана аднавіць, а народ шукае альтэрнатыву дзяржаўным органам. Хоць многія людзі наогул не разумеюць, хто такія праваабаронцы і чаму яны працуюць бясплатна. А праваабаронца на самай справе працуе фактычна круглыя суткі. Табе могуць патэлефанаваць позна ўвечары альбо з самага ранку, трэба вывучаць абставіны спраў, складаць скаргі. Дзяржаўныя адвакаты так не працавалі б. Альбо рабілі б гэта за немалыя грошы.

**— У апошні час на беларускіх праваабаронцаў аказваецца вялікі ціск з боку дзяржавы…**

— У 2003 годзе нас таксама выціснулі з легальнага прававога поля, таму мы былі вымушаны зарэгістравацца ў Кіеве. За час дзейнасці арганізацыі былі і арышты, і ператрусы, і запалохванні. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года нават маёй жонцы тэлефанавалі і пагражалі, мяне саджалі на "суткі". Не ўтойваю — многія сыходзілі з нашых шэрагаў, не вытрымлівалі. Некаторыя працуюць сёння ў дзяржаўных структурах, мы з імі падтрымліваем адносіны. Але працаваць на самай справе складана. І калі хтосьці жадае паспрабаваць — калі ласка! Месца ўсім хопіць. А то ў нас вельмі любяць крытыкаваць праваабаронцаў на словах. Ніхто не хоча паказаць, на што ён здольны сам.

**— Гэты год ужо сыходзіць у гісторыю. Якім ён быў для вас і вашай арганізацыі?**

— Адпрацавалі няблага. Вярнуліся да "афганскай" тэмы (вялі кампанію за аднаўленне правоў воінаў-"афганцаў"), аказвалі юрыдычную дапамогу ахвярам барацьбы са свіной чумой, тым, хто пацярпеў ад ахоўнікаў гандлёвых цэнтраў (а такія з'явы сталі ўжо рэчаіснасцю нашага жыцця). Збіраемся падняць пытанне аб прыватызацыі кватэр і з гэтай нагоды рыхтуем ліст ва ўрад. На якой падставе людзей прымушаюць прыватызаваць кватэры і за гэта збіраюць вялікія грошы? Чалавек, можа быць, 30—40 гадоў адпрацаваў на прадпрыемстве, атрымаў дзяржаўную кватэру... Зазначу — не гэтая ўлада давала тыя кватэры. Яна майстар толькі забіраць. А вось калі справа тычыцца згарэўшых савецкіх укладаў, тут дзяржава маўчыць. Натуральна, не пакідалі без увагі справу палітзняволенага Мікалая Аўтуховіча і зніклага Юрыя Захаранкі. Дарэчы, гэта апошні год расследавання справы былога міністра ўнутраных спраў Беларусі. У 2014 годзе з-за сканчэння тэрміну даўніны справа Захаранкі можа прыпыніцца... Зрэшты, трэба прызнаць, што не заўсёды мы можам дапамагчы чалавеку. Ёсць такія выпадкі. Але калі, нягледзячы на рашэнне судоў, сітуацыя супярэчлівая, тады стараемся паказаць яе абсурднасць праз СМІ.

**— Што ў бліжэйшых планах?**

— У наступным годзе ў Мінску пройдзе чэмпіянат свету па хакеі, таму не выключаю, што некаторых актывістаў могуць на гэты час ізаляваць. Гэта будзе напружаны перыяд для праваабаронцаў. Мы не раз узнімалі тэму рамонту Мінскага цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна, і, здаецца, нас пачулі. Наша арганізацыя падтрымала "Дыялог аб мадэрнізацыі", мы прадставілі праект рэформ судовай сістэмы. Спадзяюся, што ў гэтым накірунку працягнем працу, хоць дзяржаўныя органы ўжо ўзялі некаторыя нашы напрацоўкі. Будзем працаваць у сацыяльных сетках, са СМІ. Ведаеце, калі не будзе праваабаронцаў, то грамадства згубіцца. Праваабарончая дзейнасць — люстэрка праблем грамадства. Я не шкадую, што выбраў гэты шлях...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

SOS!

## *Марафон жыцця Марыны Ласкутовай*

*14 снежня ў Мінску ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі (Калiноўскага, 111) пачнецца кругласутачны дабрачынны марафон "24 гадзіны. Сэрца Марыны".*



Як паведамлялася раней, 13-гадовая ўкраінская гімнастка зараз знаходзіцца ў анкалагічным цэнтры ў Бараўлянах. Яна перанесла дзве аперацыі, праходзіць сеансы хіміятэрапіі.

Беларускія трэнеры і гімнасткі-"мастачкі" дапамагаюць сям'і спартсменкі, але для далейшага лячэння ў адной з заходніх клінік Марыне патрабуецца дастаткова вялікая сума — больш за 100 тысяч еўра.

Зоркі айчыннага спорту, аб'яднаныя дабрачынным праектам "Мары здзяйсняюцца", некаторыя федэрацыі і прадстаўнікі вядучых СМІ запрашаюць беларусаў падтрымаць Марыну. Усе сродкі ад прабегу пойдуць на яе лячэнне.

Ужо выказалі жаданне прыняць удзел у марафоне зборныя Беларусі па футболе і хакеі, мастацкай гімнастыцы і лёгкай атлетыцы, вольнай і грэка-рымскай барацьбе, каманды Аляксандры Герасімені і Дар'і Домрачавай, прадстаўнікі шоу-бізнесу...

Паўдзельнічаць у марафоне можа кожны жадаючы. Мінімальная дыстанцыя ўдзелу — 200 метраў. Марафон пачнецца ў 15.00 14 снежня і працягнецца да 14.59 наступнага дня.

Зрэшты, Марыне можна дапамагчы і зараз, калі накіраваць дапамогу на наступныя рахункі:

**Дабрачынныя рахункі адкрыты ў філіяле №614 — г.Мінск, вул.Карбышава, 13, к.2; УНП 600052608; МФО 153001520:**

**— беларускія рублі** — транзітны рахунак №3819382106084 на дабрачынны рахунак №000035 у аддзяленні № 614/143, бестэрміновы;

**— расійскія рублі** — транзітны рахунак №3819382118580 на дабрачынны рахунак №000030 у аддзяленні № 614/143, бестэрміновы;

**— долары ЗША** — транзітны рахунак №3819382118580 на дабрачынны рахунак №000033 у аддзяленні № 614/143, бестэрміновы;

**— еўра** — транзітны рахунак №3819382118580 на дабрачынны рахунак №000032 у аддзяленні № 614/143, бестэрміновы;

**Прызначэнне плацяжу**: для залічэння на дабрачынны рахунк Ласкутовай Алены Васільеўны для лячэння і рэабілітацыі дачкі Ласкутовай Марыны Анатольеўны.

СИТУАЦИЯ

# У семей с приемными детьми льгот не будет?

***Министерство образования не считает «целесообразным приравнивать опекунские и приемные семьи, воспитывающие трех и более детей, к многодетным».***

Родители, воспитывающие приемных детей, получили ответ на свое коллективное письмо в Совет министров и другие ведомства.

Обратиться к чиновникам, по мнению авторов письма, их побудило появление в прошлом году новой редакции Положения о приемной семье. Новый документ, по мнению родителей, не улучшил положение приемной семьи, а ухудшил, создал дополнительную нервозность, отбил охоту брать приемных детей на тех условиях, которые предлагает государство. Приемные родители в своем обращении указали на те пункты, которые, по их мнению, следовало бы пересмотреть, отредактировать, по возможности обсудить с приемными родителями.



**Елена Кашина с приемными детьми Стасом и Владом.**

— Мы получили один общий ответ, хотя писали в Совмин, Администрацию президента, Министерство труда и социальной защиты, Минобразования, Министерство энергетики, — рассказывает приемная мама из Орши Елена Кашина. — Общий ответ готовило Министерство образования, и его можно признать положительным, потому что еще ни разу это ведомство не предоставляло нам ответы по существу заданных вопросов. Но все же некоторые разъяснения чиновников нас не удовлетворили. В частности те, где речь шла о льготах для приемных семей.

**— Например…**

— Мы обращали внимание, что семьи, где воспитываются приемные дети, не имеют даже льготного минимума при оплате электроэнергии, газа. Весь льготный тариф, как правило, "потребляют" приемные дети, остальным членам семьи от льготного тарифа остаются крохи. Если, например, в семье двое приемных детей, то только 30 кВт электроэнергии из положенных 150 семья, в которой могут быть и свои кровные дети, оплачивает по льготному тарифу. Мы просили при оплате коммунальных платежей приравнять наши семьи к многодетным. Министерство образования ответило, что они не считают это целесообразным.

**— Пояснили почему?**

— Нет. Правда, сообщили, что обратились в Совет министров с просьбой поручить Министерствам жилищно-коммунального хозяйства, экономики, энергетики, финансов при установлении льготных тарифов на коммунальные услуги, газо-, электро- и теплоснабжение для многодетных семей учитывать и опекунские, приемные семьи, воспитывающие трех и более детей. По информации Министерства жилищно-коммунального хозяйства, уже рассматривается вопрос о внесении соответствующего дополнения в постановление Совмина от 25.08.1999 г. "Об упорядочении расчетов населения за пользование жилыми помещениями и коммунальными услугами".

Красиво, правда? Не считают целесообразным, но обратились и уже рассматривается вопрос о внесении соответствующего изменения. Это, конечно, радует, но хотелось бы, чтобы решение этого вопроса не затянулось на годы...

Идем далее. Мы просили обратить внимание на пункт 50 Положения о приемной семье. Суть его такая: если приемный ребенок болеет, есть медицинское заключение, врачебный рецепт и чек из аптеки, приемные родители пишут заявление в местный отдел образования, который ходатайствует перед местным Советом депутатов о выплате приемному родителю денежных средств на приобретение для приемного ребенка (детей) лекарственных средств, изделий медицинского назначения или технических средств социальной реабилитации. Мы ставили вопрос о том, что местные Советы депутатов не обладают полномочиями по распоряжению бюджетными деньгами, они не могут принимать решения о выплате средств конкретному лицу. Тем более сессии депутатов проходят только дважды в год. Как же возмещать расходы на лечение приемных детей?

Ответ просто фееричен! Оказывается, по замыслу Министерства образования или Совета министров такая трактовка нормы и не подразумевает выплаты, она подразумевает только ходатайства (просьбы) перед неуполномоченным лицом! Это ж надо так придумать! Вроде норма есть, но не работает. И волки сыты, и овцы целы. Но все же, видимо, понимая, что с таким возмещением затрат перегнули и к тому же Советы депутатов втянули, решено было этот порядок изменить. Судя по ответу, планируется внесение изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь "О гарантиях по социальной защите детей-сирот, детей, оставшихся без попечения родителей, а также лиц из числа детей-сирот и детей, оставшихся без попечения родителей".

**— Наверное, более всего приемные родители были возмущены нововведением, которое позволило заключать с приемной мамой вместо бессрочного трудового договора, как было ранее, — трудовой договор на год. Добились его отмены?**

— В ответе Минобразования этому вопросу посвящен только один абзац: *"Трудовым кодексом Республики Беларусь нанимателям предоставлено право определять срок, на который заключается трудовой договор. Заключение трудовых договоров на срок более 5 лет не предоставляется целесообразным, т.к. договор заключается на воспитание конкретного ребенка и он не может становиться бессрочным".*

Я хочу спросить: почему нет ссылки на статью Трудового кодекса, где говорится, что нанимателю предоставлено такое право? А потому, что такого права в отношении трудового договора у нанимателя нет. Трудовой кодекс запрещает на работу, срок которой установить невозможно, устанавливать сроки. Это допустимо только в отношении контрактов, но за срочность трудовых отношений в этом случае предусмотрены доплаты. В этой части ответ Минобразования я буду обжаловать в КГК РБ, потому что он нарушает наши права, незаконен и не обоснован.

Вообще хочу сказать, что практически на все вопросы (и где речь идет о трудовых отпусках приемным родителям, и о формах контроля за деятельностью приемных родителей, и др.) четких ответов мы не получили, чиновники походили вокруг да около, а ясности как не было, так и нет.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПО ЗАСЛУГАМ?

# «Путь в никуда»

***Официальные профсоюзы раскритиковали ситуацию с заработной платой в сфере образования. Они требуют дополнительных бюджетных ассигнований на зарплаты учителям и преподавателям. Но услышит ли их правительство?***

О ситуации с заработной платой речь шла на пленуме ЦК Белорусского профсоюза работников образования и науки. В очередной раз профсоюзные лидеры сокрушались несправедливой и не адекватной нагрузкам зарплатой учителей. На пленуме прозвучали такие цифры: в октябре учителя в среднем зарабатывали 4 млн 254 тыс. рублей, что на 12% больше по сравнению с августом, но при этом нагрузка педагога составила 1,24 ставки (24,7 часа), что на 12,2% выше показателя прошлого учебного года. В непростом положении оказался профессорско-преподавательский состав — зарплата в течение этого года вообще не повышалась. Зарплата воспитателей детских садов составляет сегодня всего лишь 2,6—2,7 млн рублей — и это после повышения! С августа прошлого года по уровню начисленной среднемесячной зарплаты среди отдельных видов экономической деятельности система образования прочно заняла предпоследнюю позицию.

Председатель ЦК отраслевого профсоюза Александр Бойко констатировал: некоторым учителям сейчас приходится трудиться по 36 часов в неделю, для реализации учебного плана директора школ вынуждены просить руководство образования предоставить им возможность введения нагрузки до 40 часов. "*Все прекрасно понимают, что это путь в никуда,* — цитирует председателя отраслевого профсоюза "Беларускі час". — *Мы заметили, что при одинаковой нагрузке в мае и сентябре зарплата учителей даже снизилась. Увеличение нормы нагрузки на ставку в рамках сокращенной продолжительности рабочего времени изменило пропорцию нормируемой и ненормируемой части нагрузки, следовательно, оплачиваемой и неоплачиваемой. Поэтому сегодня нужно работать над снижением ненормируемой нагрузки. С данной темой связан и вопрос чрезмерного документооборота, а также привлечения работников образования к выполнению непрофильных функций".*

Сейчас Минобразования с учетом предложений профсоюза формирует проекты документов, которые должны улучшить ситуацию. Но источники финансирования так и не определены. "*Считаем, что без направления на это дополнительных бюджетных ассигнований вопрос качественно решить невозможно. При всех трудностях в бюджетной политике это делать необходимо",* — подытожил председатель Центрального комитета профсоюза.

К СЛОВУ

## *У молодого учителя отобрали более 9 миллионов рублей*

На пленуме профсоюзные лидеры не обошли стороной и ситуацию с оплатой больничных листов, которая сложилась в стране после принятия Совмином постановления, установившего новый порядок выплаты больничных и пособий по беременности и родам. *"Потери очевидны*, — заявил на пленуме Александр Бойко. — *Находясь на 14-дневном больничном, низкооплачиваемые категории работников теряют более 190 тыс. рублей. Особенно велики потери молодых специалистов нашей девичье-женской отрасли. Так, молодой учитель лишится более 9 млн рублей по пособию по беременности и родам".*

Официальные профсоюзы, к слову, уже не первый раз критикуют это постановление Совета министров. В свое время лидер ФПБ Леонид Козик заявлял, что его организация намерена добиться отмены этого постановления. Прошло уже почти полгода, а воз и ныне там. Профсоюзные лидеры только возмущаются. Так может, профсоюзам пора переходить к более кардинальным мерам, если их замечания игнорируются правительством?

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

КУЛУАРЫ

## *«Океан Ельзи» падзякаваў беларусам*

Папулярны ўкраінскі гурт "Океан Ельзи" даў трохгадзінны канцэрт у Мінску. Артыстаў вызывалі на біс чатыры разы.

Перад песняй "Усё буде добре" лідар гурта **Святаслаў Вакарчук** звярнуўся да гледачоў, якіх сабралася поўная "Мінск-Арэна": "Дзякуй за вашу падтрымку! Сёння яна вельмі патрэбна не толькі нашаму гурту, але і нашай краіне!"

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Виктора Филистовича отправили на пенсию

*На прощание бывшему заместителю министра внутренних дел Виктору Филистовичу не только подарили кортик, но и выразили благодарность "за достойную службу". Хотя пару лет назад генерал-майора со скандалом сняли с должности. Он был одним из тех, кого А.Лукашенко публично обвинил в коррупции, — речь шла о самовольном захвате элитных участков земли в Минском районе, на которых были построены милицейские дачи.*

Пять лет назад "Народная Воля" подробно рассказывала об этом скандале. Сейчас в бывших милицейских коттеджах живут многодетные семьи — так распорядился глава государства. Хотя некоторые владельцы домов до последнего пытались отстоять свою собственность, доказывая, что все было сделано строго по закону.

Виктор Филистович лишился должности заместителя министра внутренних дел как раз после скандального антикоррупционного совещания, на котором А.Лукашенко заявил, что подчиненные тогдашнего министра внутренних дел **Владимира Наумова** самовольно захватили престижные участки земли под строительство дач в районе Заславского водохранилища. А.Лукашенко в ноябре 2008 года ультимативно заявил: *"Дайте собственникам три месяца, чтобы они снесли свои строения. Если не снесут, то они безвозмездно должны быть изъяты под дома для детей-сирот! Исполняйте!"* И добавил: *"В течение ноября эти люди должны быть уволены из органов внутренних дел!"*



Бывший министр внутренних дел Владимир Наумов принял поручение к исполнению и публично заявил: *"Все эти сотрудники будут уволены из органов внутренних дел, а их коттеджи перейдут в собственность государства".*

Поручение президента распространялось и на Виктора Филистовича — его фамилия была названа второй в списке незаконных застройщиков в милицейских погонах. Он, как и отдельные его коллеги по несчастью, был зачислен в распоряжение министра. Но буквально через полгода Виктор Леонидович снова оказался при должности. Его назначили официальным представителем МВД Беларуси в России. Этот пост приравнивается к должности советника дипломатического представительства Беларуси за границей. Стоит заметить, что практически сразу после громкого скандала Виктор Филистович разобрал свой дом и перевез его в другое место...

Милицейская газета "На страже" назвала церемонию проводов Филистовича на заслуженный отдых *"трогательной"*. Возглавляя главное управление милиции общественной безопасности и спецмилиции, Филистович, как пишет газета, *"старался жить не одним мгновением, а заглядывая далеко вперед"*.

"*Глава ведомства генерал-майор милиции **Игорь Шуневич** от себя лично и от имени всех сотрудников и военнослужащих искренне поблагодарил героя дня за многолетнюю достойную службу, завидную самоотдачу и новаторский подход на любой должности — от курсанта до высоких министерских постов,* — сообщает газета. — *В знак признания заслуг Виктору Леонидовичу перед руководящим* корпусом *было вручено наградное холодное оружие — кортик".*

На пенсии без работы генерал Филистович, скорее всего, сидеть не будет. Начальник Академии МВД генерал **Владимир Бачило** пригласил его *"продолжить профессиональную деятельность в Академии МВД"*.

Интересно, расскажет ли Виктор Леонидович курсантам Академии МВД о том, что он чувствовал, когда его на всю страну объявили коррупционером и когда у него отбирали дом?..

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 СНЕЖНЯ 2013 г.

РОЗДУМ

# Яно і ёсць наша беларускае сэрца

Толькі праз 35 гадоў пасля апублікавання ў газеце "Беларус" (№236, 1976 г.) я змог прачытаць артыкул знакамітага літаратара і грамадскага дзеяча беларускай дыяспары Станіслава Станкевіча "На службе роднай песні". Прачытаў і, моцна ўражаны, доўга маўчаў. Цяжка ўздыхнуў і ў думках вымавіў: "Якая ўсё ж пачварная была тагачасная палітыка! Як злосна шкодзіла яна такой добрай, людскай справе — кантактаванню суайчыннікаў на ніве культуры, асветы, мастацтва і літаратуры, на скрыжаванні нацыянальна-патрыятычных клопатаў!"

Названы артыкул С.Станкевіча прысвечаны маім працам у галіне беларускай фалькларыстыкі. Высокапрафесіянальна і добразычліва, я сказаў бы, з душэўнай павагай разглядае ён усе манаграфіі і навукова-папулярныя нарысы, а найперш — кнігу "Паэтыка беларускай народнай лірыкі" і вядомую на той час толькі па часопіснай публікацыі ("Полымя", 1974, №4) манаграфію "Паэтыка беларускіх загадак". Хораша гаворыць і пра ўсе тамы беларускіх народных песень, укладальнікам і рэдактарам якіх мне пашчасціла быць.

На працягу ўсяго артыкула аўтар падкрэслівае мэтанакіраванасць усёй збіральніцкай і даследчыцкай працы фалькларыста, а менавіта — "кіраваўся Ніл Гілевіч перш-наперш пачуццём беларускага патрыятызму".

Навошта, дзеля чаго ўзгадаў я гэты факт? Дзеля таго, каб наш сённяшні чытач яшчэ раз пераканаўся, якая ўсё ж пачварная была палітыка тых не зусім далёкіх часоў. Палітыка, з ласкі якой нават самы зацікаўлены чытач (Ніл Гілевіч) змог пазнаёміцца з артыкулам С.Станкевіча толькі праз 35 гадоў. А чаму б не адразу, тады ж — у 1976-м? Ну, так! Хай бы яшчэ тады і я, і іншыя чытачы ў Беларусі пераканаліся — дзеля карысці агульнай справы, як уважліва, а галоўнае, з якім шчырым беларускім сэрцам чытаюць нашы творы, нашы кнігі суайчыннікі за мяжой. Ах, яны — палітычныя эмігранты, падчас Другой сусветнай вайны супрацоўнічалі з акупацыйнымі ўладамі?! Супрацоўнічалі, на жаль. І той жа Станіслаў Станкевіч. Але — гэта быў працяг вялікай трагедыі беларускага народа, і найперш — беларускай нацыянальна-патрыятычнай інтэлігенцыі, амаль пагалоўна выбітай, вынішчанай карнымі органамі Маскоўскага Крамля ў 1920—1930-я гады. Пасля вайны — да сярэдзіны 1970-х — прайшло тры дзясяткі гадоў. Паразумнеў і адкарэктаваў свае погляды на чалавека і чалавецтва, на сацыяльныя і духоўныя праблемы жыцця вялікі свет. І кожная краіна ў гэтым свеце — таксама. І, канечне ж, Беларусь сярод іншых краін выняткам быць не можа. І беларусы спасціглі многае з таго, чаго раней як бы не бачылі і не разумелі. Спасціглі — "чым трэба найбольш у жыцці даражыць" (з майго верша 1961 года — "Углядайся, мой сыне..."). Чым? Бацькаўшчынай, родным зямлёю, роднай мовай і культурай. Дык калі мы (мы — гэта значыць дзяржаўныя сілы краіны) бачым, якой любоўю да Беларусі прасякнуты артыкулы ці мастацкія творы беларусаў дыяспары, — чаму не радуемся гэтаму, чаму не вітаем і не гукаем "Калі ласка, просім!".

Чаму — аж да самага апошняга часу — не віталі і не запрашалі, тлумачыць не трэба. "Низ-з-зя! Мы і гэтаму, унутранаму, нацыяналізму ніяк не дадзім рады, а калі яшчэ спалучыць яго з тым, эмігранцкім!.."

Зноў і зноў думаю: якая магла быць мне маральная падтрымка ў працы, калі б я прачытаў артыкул Станкевіча яшчэ тады — у 1976-м! І справа не ў тым, што ў артыкуле вельмі станоўча ацэнены мае высілкі і плёны. Справа перш за ўсё ў тым, што аўтар заклікае чытачоў убачыць і зразумець галоўнае — галоўныя высновы, да якіх я ў сваіх даследаваннях прыйшоў. Ён некалькі разоў цытуе мае тэарэтычныя падагульненні. Дазволю сабе хаця б дзве цытаты тут падаць. "Сённяшняе бытаванне ў народзе традыцыйнае абрадавае лірыкі прымушае глядзець на старую абрадавую песню не як на мёртвы эстэтычны капітал, а як на жывую, жыватворную і жыццядайную сілу, у якой ёсць не толькі мінулае, але і будучае. Жыццёвасць гэтай паэзіі — у яе высокіх ідэйна-мастацкіх якасцях, у чалавечай высакароднасці зместу і паэтычным харастве формы".



Другая цытата — словы, якімі заканчваецца даследаванне "Паэтыка беларускай народнай лірыкі". "Таму і лічым, што наша запрашэнне бліжэй заглянуць у паэтычную майстэрню народа — гэта арыентацыя не назад, у мінулае, а наперад, у будучае. Якімі шляхамі ў творчасці лепш ісці — народная паэзія падкажа нам яшчэ не аднойчы".

Магу паўтарыць гэту непахісную ісціну і сёння, але — з адной невясёлай агаворкай: паэтычныя навабранцы новых пакаленняў у бальшыні сваёй ад гэтай ісціны яшчэ далёка.

На заканчэнне гэтага запозненага слова ўдзячнасці (Станіслава Станкевіча ўжо даўно з намі няма) хачу прызнацца, што быў проста расчулены яшчэ адным момантам у артыкуле "На службе роднай песні". Яго аўтар цытуе дзве страфы з паэмы "А дзе ж тая крынічанька", якую называе "гімнам і апафеозам народнае песні". Трэба ж было там, за акіянам, у свой час прачытаць гэту паэму і трымаць у памяці гэтыя строфы — як штосьці дарагое, запаветнае. Вось гэтыя дзве страфы:

*О, песня Маці! Колькі горкай горычы*
*Сабрала ты ў адным вялікім сэрцы*
*З лугоў і ніў, з застолляў ды з каморачак,*
*Калі душа гібела ў паняверцы!*

*Ты — сімвал лёсу і скрыжаль адвечнасці,*
*Ты — дум і мар людскіх выток бясконцы,*
*Ты — найвялікшы гімн чалавечнасці,*
*Красы і веры нашай абаронца!*

Так, насупор усякім пачварным "Низ-з-зя!" жывое слова дабра і любові, веры і праўды знаходзіла сабе дарогу ад сэрца да сэрца. Ад беларускага — да беларускага. Змагаючы ўсе "крыўды-няпраўды" (Купала) — знаходзіла. І будзе знаходзіць. Бо наша беларускае слова — яно і ёсць наша беларускае сэрца.

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**Народны паэт Беларусі.**

ПРА ПАЛІТЫКУ

# Каго выбраць адзіным кандыдатам на прэзідэнцкія выбары?

Ужо дастаткова доўгі час апазіцыйныя сілы нашай краіны заняты пошукамі адзінага лідара ў барацьбе за дэмакратыю ў краіне. Пошукі поспехаў пакуль не прынеслі. І, на мой погляд, не прынясуць. Усе прэтэндэнты на ролю адзінага адукаваныя, разумныя, прыстойныя асобы. Але вось прызнаць, што сярод іх ёсць хтосьці найбольш разумны, найбольш годны, паважаны і знакаміты, яны ў сілу сваіх амбіцый, пераацэнкі сваёй значнасці не здольны. Бо іх крэда: я і толькі я ведаю, што і як рабіць, я — ісціна ў апошняй інстанцыі. Падзеі ўсіх выбараў у краіне — найлепшае сведчанне майго меркавання. І на наступных выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "элегантную перамогу" ў чарговы раз можа атрымаць наш нязменны "правадыр" А.Лукашэнка.

Што ж рабіць? Разумныя, адкажыце!

**М.М.БУЙНІЧ, вайсковы пенсіянер.**

*Гомель.*

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

## *Спявайце «Аве Марыю»!*

Многія ведаюць Зянона Пазьняка як палітыка, стваральніка БНФ. Але далёка не ўсе знаёмы з яго непаўторнымі паэтычнымі творамі. Узнёслыя словы яго верша "Гучаньне анёльскага голасу" натхнілі нашага выдатнага кампазітара Ігара Лучанка на стварэнне такой жа пранікнёнай песні "Ave Maria". Пра гэта я даведалася толькі пасля таго, як схадзіла на канцэрт **Тамары Рэміс**. Салістка Мінскай філармоніі выконвала творы розных кампазітараў, але "Ave Maria" Лучанка і Пазьняка публіцы спадабалася больш за ўсё. Асабіста я ведаю і словы, і музыку і сама яе спяваю. Але ж хочацца, каб і астатнія ведалі. Калі ласка, дапамажыце людзям, надрукуйце словы гэтай песні. Хай як мага больш людзей спяваюць на роднай мове! Тады, можа, і Зянон Пазьняк для некаторых адкрыецца з іншага боку...

**З надзеяй і павагай —**

**Валянціна ПАЖЫЛОВА.**

*г.Светлагорск.*

### Ave Maria

*У цішы над зямлёй у эфіры начным*
*Голас чысты гучыць — так пяе херувім.*

*Ave Maria gracia plena,*
*Ave Maria gracia plena.*

*На радзіме маёй ён як сонца прамень —*
*Белы цвет веснавы і крыніцы струмень.*

*Ave Maria gracia plena,*
*Ave Maria gracia plena.*

*Беражы-сцеражы нас у чорнай бядзе,*
*Я далёка-далёка ў лясной старане.*

*Ave Maria gracia plena,*
*Ave Maria gracia plena.*

*Там, дзе сосны шумяць, там, дзе хмары бягуць,*
*Хай гучыць над зямлёй, над радзімай маёй*

*Ave Maria gracia plena,*
*Ave Maria gracia plena.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Што за ваўкі шчэраць клыкі?*

**"Цяпер усе вакол Беларусі ходзяць і, як ваўкі галодныя, зубамі ляскаюць, дзе б прыхапіць".**

*Аляксандр Лукашэнка.*

*Тое зведалі калісьці,*
*Так было спакон вякоў:*
*Беларусь хацелі грызці*
*І кусаць з усіх бакоў.*
*На краіну нашу зубы*
*Выскалялі маскалі,*
*Сінявокую да згубы*
*Ледзь яны не давялі.*
*Праглынуць хацелі з Польшчы*
*Ненажэрныя паны,*
*І было, што толькі "мошчы"*
*Нам пакінулі яны.*
*Нават хіжыя германцы*
*Разяўлялі сквапна рты.*
*Задушыліся паганцы,*
*Надарвалі жываты.*
*Хто яшчэ разявіў пашчы,*
*Хто наступны на чарзе?*
*Хто, наеўшыся ці нашча,*
*Нас, крый Божа, загрызе?*
*Сёння, Бацька наш сцвярджае,*
*Трэ глядзець ва ўсе бакі,*
*Бо навокал — толькі зграі,*
*Зубы скаляць, як ваўкі.*
*Ці з цацанкай-абяцанкай,*
*Ці з пагрозай... Тая раць*
*Праглынуць гатова цалкам*
*Ці кавалкамі парваць.*
*Мне ж здаецца, зграй тых мала,*
*Ці наогул іх няма:*
*Край наш бедны, заняпалы*
*Не патрэбны й задарма.*
*Эканоміка — балота,*
*Дэмакратыі — капут.*
*Ну каму займець ахвота*
*Лішні груз або хамут?*
*Нашу родную старонку*
*З прэзідэнцкае пары*
*Хоча хтось кусануць не звонку,*
*А грызе, бадай, знутры...*

## *Чарговы аброк падказвае клёк*

**Каб папоўніць бюджэт, улада вырашыла ўвесці "пошліну за допуск аўтамабіля да дарожнага руху". Памер пошліны будзе залежаць ад вагі аўтамабіля.**

*Не сакрэт, што ўлада год каторы,*
*Каб папоўніць бедную казну,*
*Робіць з нас, насельнікаў, паборы*
*(Зрэшты, мы прывыклі к бізуну).*
*Цяжка, мусіць, даць такому веры,*
*Толькі й да машын дайшла чарга.*
*Вызначае ж пошліны памеры*
*Нашых "БМВ" і "Лад" вага.*
*На сур'ёзе поўным, а не жартам*
*Даць параду ўладзе я магу:*
*Каб пабольш "садраць",*
*Улічваць варта*
*І аўтаўладальнікаў вагу.*

## *...І гарою сталі, каб застаўся Сталін*

**Жыхары вёскі Драчкава пад Мінскам не хочуць, каб была пераймянавана вуліца, якая мае назву Сталінская.**

*Часін суровых адгалоскі*
*Яшчэ гучаць да нашых дзён...*
*Напэўна, хтось і з гэтай вёскі*
*Паслаў для Сталіна праклён*
*За раскулачанага дзеда,*
*За тое, што загінуў брат...*
*Бяду амаль што кожны зведаў,*
*Пакут спазнала вёска шмат.*
*— Калі не даў вам колісь Сталін*
*Нічога, гора акрамя, —*
*Нашчадкі ў жыхароў спыталі, —*
*Чаму ж гарою вы паўсталі,*
*Каб захаваць яго імя?*
*І быў адказ:*
*— Два боты — пара,*
*Так людзі кажуць нездарма.*
*Быў Сталін бацькам,*
*Бацька — зараз,*
*І розніцы амаль няма...*

КАК ЭТО БЫЛО...

# Лидер «джаз-банды» ушел в сельское хозяйство

На юбилейном концерте в Минске Юрий Антонов сказал, что свою концертную деятельность начал в 1964 году.

Мне вспомнились две истории из того времени. Место действия — Минск. В 1963 году Володя Т., вместе с которым мы учились до 8-го класса, поступил в техникум. До этого он учился еще и в музыкальной школе, был заядлый меломан. В техникуме он очень скоро собрал вокруг себя таких же любителей легкой музыки, сколотили музыкальный ансамбль. Правда, это безобидное начинание закончилось печально. Володя, как нынче говорят, был парень без комплексов, решил щегольнуть и назвал свой ансамбль "Джаз-банд". Кто-то очень бдительный сделал вывод, что создана банда. Соответствующая информация проверялась партийными и комсомольскими органами всех уровней. Досталось всем: и руководству техникума, и комитету комсомола, и школе, в которой Володя ранее учился. Его самого исключили из комсомола. А как же иначе: сегодня он играет джаз, а завтра — родину продаст!

Лет через 20 я встретил Володю в Министерстве сельского хозяйства, где он работал в должности инженера. О его музыкальных успехах я ничего не слышал, а спросить было неловко...

В 1965 году проводился очередной городской конкурс художественной самодеятельности, где школьники исполняли в том числе и песни на английском языке. Мероприятие это было скучное, поскольку и исполнители, и слушатели язык знали плохо: пели в основном пятиклассники, а песни были про то, как в траве сидел кузнечик или что-то вроде того. И вдруг на сцене появились четверо учеников 10-го класса, мои одноклассники, с очень популярной песней "Let's twist again". Они разбудили зал, покорили жюри, которое неосмотрительно присудило им второе место (первое на всякий случай дали хору пятиклашек).

Почти год в качестве примера недопустимого тлетворного влияния буржуазной культуры на школьную молодежь приводился факт выступления наших ребят! Подумать только, пели разухабистую западную песню, да еще в сопровождении безобразно буржуазных инструментов: аккордеона, саксофона и контрабаса (гитару почему-то не вспомнили). Но в целом история закончилась благополучно: наша замечательная "англичанка" покаялась в политической близорукости, вину за выбор песни взяла на себя. Поскольку из комсомольского возраста она успела выбыть, а в партию не вступала — что с нее возьмешь! Так ничего и не взяли — ни с нее, ни с ребят.

В таких условиях начиналась в СССР современная эстрада...

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ.**



ВАЖНАЯ ТЕМА

# Не тратьте жизнь на компьютерные игры!

Не надо думать, что в реабилитационные заведения попадают только законченные алкоголики и наркоманы. Поверьте, что из-за чрезмерного увлечения компьютерными играми тоже можно угодить на больничную койку.

С одним заядлым компьютерным игроком я познакомился лет пять назад и был просто поражен, недавно встретив его. Первое, что меня поразило больше всего, — глубокая пустота его глаз. Конечно, я не мог не спросить его о том, как жизнь...

Он начал увлекаться компьютерными играми еще ребенком. Родители не возражали, мама говорила: пусть сын лучше сидит дома за компьютером, лишь бы на улице не болтался. Она даже подумать не могла, как это, казалось бы, безобидное увлечение, повлияет на всю его жизнь! Он стал зависимым. Свое мастерство оттачивал сутками, просиживая за компьютером в разных клубах. И с каждым днем ему все труднее было связывать виртуальную игру с реальностью. Живому человеческому общению он уже предпочитал просиживание в социальных сетях. За прошедшие годы он много играл и индивидуально, и за команду, участвуя в различных чемпионатах. Это были очень напряженные игры, возможно, поэтому он подсел на наркотики... У моего знакомого компьютерные игры отняли десять лучших лет жизни.

Мне кажется, задуматься над этой печальной историей надо всем... Чего греха таить, ведь сегодня наши дети сутками сидят за компьютерами с мышкой в руке, а мы порой не уделяем этому должного внимания. Откровенно скажу, что и автору этих срок порой силой приходится отрывать внука от компьютера. Считаю, что в таких ситуациях детям нужно уделять постоянное внимание, но при этом важно запретами не перегнуть палку, а тактично, терпеливо на живых примерах им рассказывать и показывать, что в нашей жизни действительно является важным. Верю, что дети поймут: глупо тратить жизнь на то, что не приносит ни здоровья, ни серьезных заработков...

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран труда и спорта.**



ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Ці зменяцца правілы прыёму ў ВНУ?*

*У гэтым годзе недабор на бюджэтныя месцы ў ВНУ краіны пабіў усе рэкорды. Чытала, што вакантнымі засталіся амаль 2,5 тысячы бюджэтных месцаў: 1643 — на дзённай форме навучання, 768 — на завочнай і 3 — на вячэрняй. Гэта ў 5 разоў больш за паказчык папярэдняга года. Ці азначае гэта, што ў наступным годзе правілы прыёму ў ВНУ зменяцца?*

***Вольга ПІШЧЫК, Мінск.***

У Міністэрстве адукацыі праект новай рэдакцыі правіл ужо падрыхтаваны. Але якія новаўвядзенні чакаюцца, пакуль не вядома. Першы намеснік міністра адукацыі **Аляксандр ЖУК** расказаў журналістам толькі пра два магчымыя змяненні. **Першае:** плануецца зрабіць агульным конкурс для сельскай і гарадской моладзі. **Другое:** без экзаменаў залічваць на педагагічныя спецыяльнасці школьных медалістаў, а таксама пераможцаў абласнога тура рэспубліканскіх прадметных алімпіяд.

Прахадны бал збіраюцца пакінуць на цяперашнім узроўні. Каб падаваць дакументы ў ВНУ, на тэсціраванні трэба набраць 10 балаў па рускай альбо беларускай мове, 15 балаў — па матэматыцы, фізіцы, хіміі і біялогіі, 20 балаў — па гісторыі, геаграфіі, грамадазнаўстве, замежнай мове.

### ДАРЭЧЫ

### Куды не ішлі вучыцца?

У гэтым годзе самы вялікі недабор студэнтаў назіраўся ў Ваеннай акадэміі і на ваенных факультэтах: недабор склаў 30,5% ад кантрольных лічбаў прыёму. Не самая радасная карціна і ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі — 250 месцаў, або 25,6%, засталіся вакантнымі. У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М.Танка — недабор на бюджэт склаў 136 чалавек, не кажучы ўжо пра платную форму навучання. У Мазырскім дзяржаўным педагагічным універсітэце недалічыліся 110 чалавек, або 27,5%; у БДТУ — 185 чалавек, або 16,7%.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

КВАРТИРНЫЙ ВОПРОС

## *Как скопить на квартиру?*

*Как купить квартиру, получая среднюю зарплату по стране?*

*Примерно такой вопрос задали во время онлайн-конференции на сайте tvr.by председателю совета Белорусской ассоциации недвижимости* ***Николаю Простолупову.***

— Надо понимать, что самые дешевые "панельки" в Минске меньше, чем за 52—53 тысячи долларов, не найти, — ответил он. — При средней зарплате по Беларуси в 500 долларов где-то 300—350 уходит на жизнеобеспечение: продукты питания, одежду, коммунальные платежи. Остается только 150 долларов, в год — 1800. Чтобы накопить на самую дешевую квартиру, ближайшие 30 лет вы должны только об этом думать и этим заниматься. Это, конечно, нереально, неразумно. Ставки по кредитам неподъемные ни для простого гражданина, ни для представителей бизнес-сообщества. Тут надо искать неординарные ходы, брать деньги взаймы у родственников, может, что-то продать, может, наоборот, что-то купить. Во всяком случае, если заниматься обычным накопительством за счет зарплаты, то в ближайшие 30 лет возможности приобрести хотя бы однокомнатную квартиру в Минске не появится. Надо искать альтернативные пути накопления.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 СНЕЖНЯ 2013 г.

СВОИМИ ГЛАЗАМИ

# Нет цели выделиться, а есть — состояться

## *Семейный портрет в эстонском интерьере*

### *Первое преимущество: внутренний комфорт*

— Изольда, держи себя в руках!

Изольде 2 года и 3 месяца, она настоящий волчок, юла. За три минуты 17 раз спрыгнула с дивана на ковер. Вернее, 16, потому что в последний раз попала рукой в чашку с чаем, которая стояла на журнальном столике у дивана. Полет, так сказать, не засчитался, и отец сделал дочке замечание. При этом голос его остался таким же ровным, каким до сих пор Евгений Рудько рассказывал мне, как и почему он, бывший гражданин Беларуси, переселился на постоянное житье в Таллинн.

Хорошо, когда в семье нет усталости и раздражения от двух маленьких детей — старшая, Ингиборга, тоже еще крошка, девочке всего-то около четырех лет. Она с сестрой не играла, болела, сидела на руках у отца. Но вечерняя умиротворенность, доброжелательность этой молодой семьи не была деланной — на час перед гостьей. И потому, думаю, выдержала бы и не такие ЧП, как разбитая чашка.



Когда шесть лет назад Елена и Евгений стали мужем и женой, перед ними был выбор, где начинать строить семью: в Беларуси, на родине Евгения, или в Эстонии, на родине Лены. Выбрали Таллинн. Они считают, что поначалу это решение было продиктовано только эмоциями. Евгению очень понравилось спокойствие, разлитое в эстонской столице, чувство внутреннего комфорта, которое очень быстро здесь овладевает даже приезжими.

Действительно, Таллинн сочетает в себе по крайней мере два преимущества, которые ценит современный человек: тут нет автомобильных пробок и не чувствуется суеты, агрессии мегаполиса. При этом остается культурным и экономическим центром региона, страной, интегрированной в Евросоюз. Но, возможно, поначалу Женя просто не отдавал отчет в том, почему действительно принял решение об эмиграции, которая требовала, в общем-то, немалых усилий, как-то: выучить чужой эстонский язык, принять чужие (иные) правила общежития.

Да, конечно, в 25 лет семь верст не околица, море по колено и так далее. Но, думаю, подспудно Женя все-таки просчитал и выгоды экономические. Ведь он, будучи еще студентом 2-го курса юридического факультета Новополоцкого университета, имел уже свой бизнес. То есть знал кое-что о настоящих сложностях жизни. Желторотым юнцом, который мог купиться только на туристическую картинку заграницы, молодой человек, выбирая эмиграцию, все-таки не был.

К слову, юридический диплом Евгения — это, по его словам, уступка родителям. Сам он с давних пор автолюбитель, скорее даже фанат. В Беларуси занимался автоспортом. И бизнес, естественно, вырос из этого увлечения. Естественно, что и в Таллинне через несколько лет после приезда Женя сделал попытку тоже открыть свой автосервис по разборке и утилизации автомобилей. Она оказалась более чем успешной. Почему?

### *Второе преимущество: власть ценит частный бизнес*

— Здесь намного легче, чем в Беларуси, вести свой бизнес, — сразу обобщает Евгений. — Частное предпринимательство в Эстонии поддерживается на всех уровнях, потому что государство стремится, чтобы люди не сидели у него на шее, оно приветствует желание самому зарабатывать на жизнь. Когда я пришел получать лицензию, первый вопрос у чиновников был не о сертификации, которая в Беларуси, к примеру, тяжеленный камень на шее у этого бизнеса. Эстонские чиновники спросили, сколько я планирую создать рабочих мест и как планирую расширяться впоследствии. Я ощутил прямую заинтересованность власти в моей инициативе. Смотрите, даже районные управы, и те получают процент от предприятий, зарегистрированных на их территориях. А чем больше получают, тем больше услуг могут предложить жителям своего района. Значит, они, чиновники, по результатам работы смогут баллотироваться на свои посты повторно. Выходит, отношения со мной, частником, напрямую влияют на их судьбы. А выборы в Эстонии проходят очень бурно. Разрешена политическая агитация, поэтому в районе может висеть плакат: "Уберем стул из-под мэра города!" Или: "Ты — коррупционер!" И фото... И никто не имеет права снять плакат до окончания предвыборного агитационного периода.

Наш разговор коснулся болезненной темы коррупции. Она есть в Эстонии, как везде, со вздохом констатировали Женя и Лена.

— Но! На дорогах полицейские взяток не берут, и не пытайтесь даже откупиться, — тут же считает нужным добавить Евгений. — Если вас остановил полицейский, лучше всего извиниться за нарушение и признать свою вину. Такое поведение даст гораздо больше пользы. Полицейский, видя ваше раскаяние, может выписать предупреждение или же минималку. Вообще, недавно в Таллинне сменили чуть ли не весь состав полиции, в столицу приехали работать люди из других регионов, не местные — власть пытается бороться с коррупцией, оздоровлять обстановку. Мне кажется, им это удается. Я много езжу по странам Балтии. Так вот, в Эстонии самые честные полицейские, по-моему. За 6 лет меня здесь останавливали на дорогах всего два раза (не считая, конечно, рейдов после праздников, когда тормозят всех подряд, проверяя на спиртное). Потом, по-моему, по честности идут литовские полицейские. И только третьи — латвийские, потому что вымогают иногда на голом месте.

Я прошу рассказать подробнее о бизнесе — на рынке автосервиса высокая конкуренция? Евгений оживляется:

— Да, рынок в Таллинне насыщенный, но если с любовью и упорно, то... Динамика роста конкретно нашей фирмы пока положительная. Дело развивается вширь: одно направление иссякает, другое создается. Причем приходится учитывать национальные особенности работы в сфере услуг. Финны, например, ни за что ничего не станут покупать, если владелец фирмы — не финн. А эстонцы ничего не станут покупать, если другой эстонец не посоветует. Нужна протекция! Авторитет бизнесмена на первом месте у населения.

— А у проверяющих органов?

— О, за два года никаких проверок! Кроме одной, экологической. А так никто не трогает, не трясет, потому что люди здесь, в принципе, не утаивают налоги. А он единственный — НДС. Государство бизнес не выдаивает. У нас же, помню, если хотя бы два месяца никто не приходил на фирму — беда: значит, на тебя готовят тотальную облаву. У меня, например, из магазина запчастей в Новополоцке налоговая после проверки вынесила все подряд. Я разочаровался в бизнес-климате Беларуси. Мы зарабатывали, но рассчитывать на то, чтобы "подняться", — без больших связей в Беларуси это невозможно сделать! Я мог рассчитывать на тяжелый труд и зарплату чуть выше обычного.

### *Третье преимущество: планы на будущее*

Я как журналист копаю дальше — о заработках молодой семьи. Какие доходы у Жени и Лены, врача-микробиолога? Женя говорит, что в семью отдает примерно 1000 евро ежемесячно. Зарабатывает больше, но, так как фирма молодая, требуются вложения в оборотный капитал, а также возврат инвестиций — за год вернул уже 60 процентов. Сейчас у него работает 8 человек, включая его самого и бухгалтера. А начинал один — с утра и до 12 ночи в любую погоду. Сам развозил запчасти, сам обрабатывал заказы, сам закупал машины. Потом бизнес стал расти.

— Покатило, — с удовлетворением соглашается Женя. — Сейчас разбираем много марок, но хочу переходить конкретно на "вольво". Нас недолюбливают продавцы новых запчастей, как и мы их, потому что они завозят дешевый китайский товар, а у нас хоть и б/у, но оригинальный. Какую машину предпочитаю лично я? Когда только начинал водить, хотелось дорогую и серьезную. Теперь абсолютно все равно. Я видел в разборке столько машин, столько потрогал руками... Машины особых эмоций уже вообще не вызывают, разве только настоящие спортивные для гоночных трасс. Я не то что хвастаюсь... Это в Беларуси, помню, вся прибыль уходила на внешние признаки: дорогие телефоны и машины. Невероятные ремонты в квартирах... Здесь по-другому — нет цели внешне выделиться. Есть стратегическая цель — состояться.

Конечно, возможно, такие качественные изменения в целеполагании у Евгения связаны еще и с его возрастом, и с социальным положением. В Беларуси он жил молодым холостяком, теперь тоже молодой, но семейный, а это здорово влияет на жизненные ориентиры. Которые в Эстонии, тут же подчеркивают мои собеседники, гораздо более достижимы. Самое главное: у семьи Рудько решен квартирный вопрос. В кредит на 27 лет куплена трехкомнатная квартира площадью 65,6 кв. метра. И — внимание! — процентная ставка по кредиту всего 4,5 процента в месяц. Необременительно.

Кредит за квартиру и коммунальные услуги семья оплачивает из зарплаты Елены, которая у нее, молодого врача-микробиолога, составляет пока 650 евро в месяц (но есть реальные перспективы роста). Половина этой суммы уходит на платежи. Так что тяготы кредита и платы за отопление (да, зимой доходит до 200 евро в месяц — ужас при наших доходах, но не при средних эстонских) молодая семья не считает для себя кабальными. Могут и одеться, и съездить на отдых. Хотя с малышками далеко двигаться еще не хотят. Есть собственное море. Которое, как шутит Женя, соленое, но холодное. Впрочем, считают они, собственный домик у теплого моря в Испании — не заоблачная мечта, а вполне осуществимая реальность. Возможно, в их планы жизнь внесет коррективы. И, скорей всего, что внесет. Но сама возможность так спокойно и красиво говорить о своем эстонско-европейском будущем дорогого стоит. Ведь именно завтрашними планами интересен наш каждый сегодняшний день.

**Елена МОЛОЧКО.**

*Таллинн—Минск.*



ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## *Андрей Климов учит китайский*

*Далеко не все белорусские политики могут похвастаться отличным знанием иностранных языков. Бывший бизнесмен и политик Андрей Климов освоил не только английский, французский, испанский и немецкий. Недавно он пошел изучать еще и китайский! Андрей Евгеньевич два раза в неделю ходит на занятия в Институт Конфуция, осваивает иероглифы.*

*"Народная Воля" поинтересовалась: зачем ему это надо?*



— Китайский мечтал изучить еще со школы, после того, как прочитал книгу Стоуна, первого официального посла Великобритании в Китае, — *рассказал Андрей "Народной Воле".* — Вторая причина — китайские философия, поэзия и живопись. Каллиграфия иероглифов завораживает. Но решающим толчком стало сотрудничество с одним инвестиционным фондом в Гонконге — я у них многому научился, был впечатлен их знанием конъюнктуры в мировой экономике и сложных финансовых схем, по которым работает западный мир и которые являются ключом финансового расцвета Гонконга. Мне предложили пройти у них стажировку, вот я и решил основательно подготовиться к поездке...

*Андрей Климов уже пару месяцев ходит на занятия китайским два раза в неделю.*

— Преподаватель — китаянка, — *говорит он.* — Объяснение на английском, так что еще и живая практика английского... В голове пока, конечно, полный хаос. Преподаватель строгий и спуску не дает, на каждом занятии тесты, диалоги и т.д.

Этот язык не похож ни на один другой. Другая вселенная, другая культура... Я, правда, давно собирался с силами, чтобы выучить китайский. Не представлял, как смогу освоить иероглифы. Впрочем, и сейчас до конца не верю, что у меня это получится. Хотя уже кое-что могу читать и писать и даже петь песни!

Но на первом месте у меня была задача освоить основные европейские языки. После посещения вместе с Александром Милинкевичем Европарламента в 2009 году понял, что без этого нам будет трудно продвигать интересы Беларуси в ЕС, поэтому сначала пришлось освоить 8 европейских языков: английский, французский, испанский, португальский, итальянский, немецкий, чешский. На очереди, думаю, шведский, греческий, венгерский и турецкий. Вот такие у меня планы...

Беларусь дружит с Китаем, и мы можем многому научиться у китайцев. Но сначала надо постигнуть их культуру и язык. Стоит также учесть, что китайцы по своему менталитету не терпят диктата и даже равных отношений: либо они главные, либо — никак. И это заметно даже по преподавателю, с виду хрупкой и милой девушке...

**Марина КОКТЫШ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## *Таццяна Драздоўская — лепшая!*

*Вядомая беларуская яхтсменка Таццяна Драздоўская ў Аўстраліі выйграла этап Кубка свету па парусным спорце ў алімпійскім класе судоў "Лазер-Радыял".*



Па выніках 10 праведзеных гонак Таццяна Драздоўская атрымала безумоўную перамогу. Шэсць разоў беларуска фінішавала першай.

Спаборніцтвы сабралі больш за 200 яхтсменаў з усяго свету. Барацьба за перамогу і прызавыя месцы разгарнулася паміж удзельнікамі, якія выступалі ў алімпійскіх, паралімпійскіх і ў некаторых неалімпійскіх класах яхт.

Рэгата, дзе перамагла Драздоўская, уваходзіць у спіс спаборніцтваў па парусным спорце, выступленне ў якіх ўлічваецца пры падліку афіцыйнага сусветнага рэйтынгу Міжнароднай федэрацыяй парусного спорту. Як паведамляе belta.by, на момант апошняга абнаўлення сусветнага рэйтынгу напрыканцы кастрычніка Таццяна Драздоўская знаходзілася на трэцім радку ў класе "Лазер-Радыял", хоць да гэтага на працягу некалькіх месяцаў ёй удавалася ўтрымліваць першую пазіцыю. Паспяховае выступленне на этапе Кубка свету ў Мельбурне дазволіць Драздоўскай зноў вярнуцца на вяршыню міжнароднага рэйтынгу.

### *З асабістай справы*

Таццяна Драздоўская з'яўляецца вядучай яхтсменкай Беларусі ў класе "Лазер-Радыял". Яна шматразовая чэмпіёнка краіны, пераможца і прызёр этапаў Кубка свету, удзельніца фіналаў чэмпіянатаў свету і Еўропы. У 2000 годзе выканала нарматыў майстра спорту міжнароднага класа. У 2007 годзе стала чэмпіёнкай свету. Таццяна Драздоўская брала ўдзел у чатырох Алімпіядах (2000, 2004, 2008, 2012). На Алімпійскіх гульнях 2008 года ў Пекіне заняла 23-е месца, 2012 года ў Лондане — 15-е месца. 8 красавіка бягучага года ўпершыню ўзначаліла сусветны рэйтынг у класе яхт "Лазер-Радыял".

СОРАМ!

## *«Падстаў для пераразліку вашай пенсіі не маецца»*

*Так адказаў Станіславу Шушкевічу намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Ігар Старавойтаў.*

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі ў 1991—1994 гадах Станіслаў Шушкевіч звярнуўся да міністра працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь **Марыяны Шчоткінай** з просьбай распавесці, на падставе якіх заканадаўчых актаў яму працягваюць выплачваць пенсію памерам 3 тысячы 200 рублёў.

"*Прашу выдаць мне даведку аб тым, на падставе якіх законаў (дэкрэтаў, указаў, іншых нарматыўных актаў) мне выплачваецца пенсія ў памеры 3200 рублёў (30 цэнтаў ЗША) у месяц*", — напісаў у лісце Шушкевіч.

Сама Марыяна Шчоткіна на ліст Станіслава Шушкевіча не адказала. Адказ прыйшоў за подпісам намесніка міністра **Ігара Рыгоравіча Старовойтава**.

"*У адпаведнасці з заканадаўствам Вам з 26 студзеня 1994 года ў сувязі з выхадам у адстаўку ўстаноўлена пенсія ў памеры 70 (пазней 75) працэнтаў ад заробку Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*, — піша Старавойтаў. — *У сувязі са спыненнем паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь заработная плата па пасадзе "Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" не пераразлічваецца. Адпаведна, падстаў для пераразліку Вашай пенсіі не маецца*".

Афіцыйны адказ чыноўніка, які адказвае за сацыяльную абарону ў краіне, шакіруе цынізмам.

"*Як вядома, Вярхоўны Савет быў парламентам Беларусі, і не трэба быць надта разумным, каб зразумець, што калі з'явіўся новы парламент — праваПераемнік Вярхоўнага Савета, то ў яго ёсць старшыня, ці старшыні палат, зарплата якіх пералічваецца ў сувязі з інфляцыяй, і згодна з іх заробкам павінна разлічвацца пенсія былога старшыні парламента*", — слушна заўважылі супрацоўнікі сайта charter97.org, якія першымі апублікавалі адказ чыноўніка Старавойтава Шушкевічу.

На думку Станіслава Шушкевіча, ліст намесніка міністра працы нельга трактаваць інакш, як сцвярджэнне, *"што парламента ў нас няма і што Еўрасаюз і беларуская апазіцыя мае права прытрымлівацца такога пункту гледжання"*.

*— Вы бачыце, што гэтага чыноўніка нават не здзіўляе факт, што я атрымліваю такую смешную пенсію!* — пракаментаваў "Народнай Волі" Станіслаў Шушкевіч ліст з міністэрства. — *Пра якую сацыяльную абарону можна весці гаворку? Я магу многа на гэтую тэму гаварыць, але гэта бессэнсоўна...*

*Што буду далей рабіць? Я прайшоў усе беларускія суды. Мог бы звярнуцца ў Страсбургскі суд, але ж яго юрысдыкцыя не распаўсюджваецца на Беларусь, і таму ягонае рашэнне не будзе мець у нашай краіне ніякай сілы.*

Пенсію Станіславу Станіслававічу на дом кожны месяц прыносіць паштальёнка.

*— Яе атрымлівае мае цешча: свае тры мільёны і мае тры тысячы,* — гаворыць Шушкевіч. — *Што тычыцца мяне, то я зарабляю грошы. Цяпер вось стабільна працую ў Польшчы, чытаю курсы, таму нешта перападае...*

**Марына КОКТЫШ.**



На № ___ ад ___

Шушкевічу С.С.

220035, г. Мінск

Паважаны Станіслаў Станіслававіч!

Ваш зварот разгледжаны. Паведамляем наступнае.

Дзяржаўныя органы і іншыя арганізацыі па заявах грамадзян выдаюць даведкі, прадугледжаныя Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 красавіка 2010 г. № 200. У прыватнасці, органы, якія назначаюць і (або) выплачваюць пенсіі, выдаюць даведку аб памеры атрыманай пенсіі.

Выдача даведкі аб тым, на падставе якіх законаў выплачваецца пенсія, пра якую Вы вядзеце гаворку ў сваім звароце, заканадаўствам не прадугледжана.

Адносна Вашага пенсійнага забеспячэння адзначым наступнае.

У адпаведнасці з заканадаўствам Вам з 26 студзеня 1994 года ў сувязі з выхадам у адстаўку ўстаноўлена пенсія ў памеры 70 (пазней 75) працэнтаў ад заробку Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У сувязі са спыненнем паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь заработная плата па пасадзе «Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» не пераразлічваецца. Адпаведна, падстаў для пераразліку Вашай пенсіі не маецца.

Намеснік Міністра І.Р.Старавойтаў

